18 ЖНІЎНЯ 1999г. СЕРАДА

# НАВІНЫ

№93 (624) КОШТ СВАБОДНЫ

## Лявон Баршчэўскі: «Перамовы Лукашэнку непатрэбныя»

стар.4



ПЕРАМОВЫ

## Сем на шэсць

Апазіцыя вызначыла прыкладны склад сваёй дэлегацыі на перамовах з уладамі

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

Як паведаміў старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Станіслаў Багданкевіч, міжпартыйны Кансультатыўны савет прыняў прынцыповае рашэнне, што ў склад дэлегацыі мусіць уваходзіць 7 чалавек. Як нам стала вядома, у гэты спіс увайшлі: ад АГП – Анатоль Лябедзька, ад Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі «Народная Грамада» (партыя М.Статкевіча) – Аляксей Кароль, ад Беларускага Народнага Фронту – Вінцук Вячорка, ад Партыі камуністаў Беларускай – Сяргей Калякін альбо Алена Скрыган, ад Жаночай партыі «Надзея» – Валянціна Палевікова, ад Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады (партыя С.Шушкевіча) – Алег Трусаў і ад Беларускай партыі працы – Леанід Лемяшонак.

Улічваючы «сціплыя» пасады прадстаўнікоў афіцыйнай дэлегацыі, апазіцыянеры вырашылі, што іх дэлегацыя таксама будзе прадстаўленая не старшынямі партыяў. У сувязі з гэтым В.Палевіковай і Л.Лемяшонку прапанавана выставіць іншыя кандыдатуры. Камуністы хутчэй за ўсё будуць прадстаўленыя А.Скрыган.

Па словах старшыні АГП, калі ўзнікне праблема і ўлады не пагадзяцца з павелічэннем апазіцыйнай дэлегацыі, то тады сёмы чалавек альбо не будзе мець права голасу, альбо проста будзе часова «замяняць» кагосьці з асноўнай шасцёркі.

Спіс дэлегатаў мусіць быць зацверджаны на паседжанні Вярхоўнага Савета, якое адбудзецца не пазней за 1 верасня. Толькі пасля гэтага перамовы з уладамі пры пасрэдніцтве АБСЕ змогуць пачацца. ■

# «Настаўнік» і вучань

У першы дзень судовага працэсу экс-міністр Васіль Лявонаў заявіў, што яго будзе судзіць не суд, а сам Лукашэнка

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ

**Учора ў Вышэйшым судзе Беларусі пачаўся працэс над Васілём Лявонавым. Нагадаем, былы міністр сельскай гаспадаркі адседзеў у следчым ізалятары ўжо паўтара года. Следчыя за гэты час «накапалі», як яны ўпэўненыя, дастаткова доказаў, каб суд абвесціў затрыманага злачынцам.**

Лявонаў абвінавачваецца ў хабарніцтве, крадзяжы дзяржаўнай маёмасці, незаконным захоўванні зброі. Аднак, ці прызнае суд віну міністра даказанай, яшчэ невядома. Працэс абяцае быць доўгім. Сведкаў дзесяткі, некалькі калгасаў прыслалі на працэс сваіх прадстаўнікоў, каб тыя падтрымалі прэтэнзіі дзяржавы да былога міністра. Узмацнілася і абарона Лявонава. Акрамя беларускай адвакаткі Зудавай, яму будуць дапамагаць маскоўскі адвакат Мільчанкоў, прадстаўнік Хельсінкскага камітэта Звозкаў і дачка Лявонава. Гэтай міласцю суд як быццам бы дэманструе імкненне да аб'ектыўнасці. Аднак выдатную магчымасць для такой дэманстрацыі суд пад кіраўніцтвам Віктара Чартовіча ўжо згубіў – праз дзве гадзіны абмеркавання было адхіленае хадайніцтва Лявонава і яго адвакатаў аб дарасследаванні справы і змене меры ўтрымання на падпіску аб нявыездзе. ▶

Заканчэнне на стар.2



Фота Ул.ШЛАПАКА

ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

### Гуманітарную дапамогу раскралі

Улады Босніі прысвоілі не менш за мільярд долараў гуманітарных сродкаў – так сцвярджае ўчарашні нумар газеты *New York Times*. Пасля расследавання, праведзенага пад эгідай урада ЗША, высветлілася, што ўся сістэма размеркавання гуманітарнай дапамогі ў Босніі і Герцагавіне была карумпіраваная. На гэты момант група расследуе 220 фактаў карупцыі і махлярства.

### Са зброяй — лепш

У Косава скончыўся тэрмін добраахвотнай здачы зброі баевікамі Арміі вызвалення Косава. Тым не менш, міратворчыя сілы дагэтуль сабралі толькі каля 60% усіх «ствалоў». У асноўным гэта зброя састарэлага ўзору — найноўшыя мадэлі баевікі пакідаюць сабе.

Падрыхтаваў Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

### Казахстан получил деньги за Байконур

Как сообщило российское радио «Эхо Москвы», Казахстан получил от РФ первый транш арендной платы за космодром Байконур в 1999 г. в размере $12,5 млн. Сумма годовой аренды составляет примерно $115 млн., из них $50 млн. будет выплачено деньгами, а $65 млн. — товарами.

### Бойтесь миксера!

По информации газеты «Коммерсант», голландский концерн Philips признал небезопасным и согласился отозвать с российского рынка миксер HR-1340 Billy. Стоит добавить, что такой миксер продается и в магазинах Беларуси.

Отдел информации

наша свабода

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# Сілавы квартал

Алесь ДАШЧЫНСКІ

**У самым цэнтры Мінска, на былой вуліцы Трактарнай (цяпер імя З.Азгура) узводзяцца два элітныя дамы для сілавікоў. Гэтая вуліца абраная нездарма, тут жыве дзяржсакратар Савета бяспекі Віктар Шэйман.**

У аднам з новых дамоў атрымаюць кватэры апаратчыкі міністэрства абароны. Вайсковы кааператыў «Шчыт» аказаўся даволі турботным для будаўнікоў і пастаянна патрабуе хутчэйшай здачы дома. З гэтай нагоды на генпадрадчыка, фірму «Лекас», накіравалі нават службу кантролю. З чэрвеня гэтага года забяспечана беспрабойнае фінансаванне аб'екта, які намечана здаць навасёлам у канцы верасня. Вайсковы дом з чырвонай цэглы на тры пад'езды і 81 кватэру збудаваны па індывідуальным праекце. Самая меншая, двухпакаёўка, мае 67 квадратных метраў плошчы, а самая большая, чатырохпакаёўка, да 109 квадратных метраў. Кухні тут таксама нармальныя, на 13 квадратных метраў, тут можна без праблемаў прыняць гасцей.



Фота Ул.ШЛАПАКА

● За бетоннай агароджай расце дом для чэкістаў

Рабочыя сцвярджаюць, што простым людзям такое жыллё не па кішэні. У доме зробленая кладка сценаў з уцяпленнем. Аддзелку кватэраў гаспадары будаўнікам не даверылі, і пасля засялення самі на свой густ наклеяць шпалеры, пакладуць плітку і пасцеляць паркет. Падчас узвядзення дома былі выкананыя ўсе пажаданні заказчыкаў, хаця ў праектнай дакументацыі шмат што чамусьці прапушчанае, у тым ліку размяшчэнне выемак для падключэння электрычнасці. Калі дом вырас, «Шчыт» ануляваў генплан у сувязі з тым, што насупраць з траўня мінулага года тут пачалі будаваць дом для контрразведчыкаў КДБ. Заказчык кааператыў «Витязь» размахнуўся на 108 кватэр і 38 падземных гаражоў. (Дарэчы, свой дом вайскоўцы будуюць без усялякіх гаражоў.) Дом разведчыкаў таксама будзе мець тры пад'езды і 9 павярхоў, але гэта толькі пачатак. Тут плануецца размясціць цэлы сілавы квартал, пабудаваць яшчэ два ўтульныя дамы. Менавіта па гэтай прычыне ўзнікла праблема з каналізацыяй, і першапраходцам-вайскоўцам давялося ўносіць змены ў генплан. Прадстаўнікі «Шчыта» пажадалі паставіць нямецкія каналізацыйныя сеткі, але фірма «Лекас» не пагадзілася з гэтай прапановай, тым болей, што цяпер загадана карыстацца айчыннымі будматэрыяламі. Дом для чэкістаў будаўнікі павінны здаць у 2000 годзе. ■



● Мой дом — мая крэпасць. Тут справяць наваселле вайсковыя чыноўнікі

НАДВОР'Е




**18 жніўня** па рэспубліцы чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е. У паўночных раёнах кароткачасовыя дажджы, вецер заходні, 4–9 м/сек. 19–20 жніўня пераменная воблачнасць. 19 жніўня ўначы без ападкаў, удзень у заходніх раёнах, 20 жніўня месцамі кароткачасовыя дажджы, навальніцы, тэмпература паветра ўначы 7–12, удзень 18–23, па Брэсцкай вобласці — 19–24.

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**465 000**

## СЕРАДА



З АЛЯКСАНДРАМ ДУБРАВІНЫМ

### Хто на Каўказе акупант?

Расія ўсё глыбей уцягваецца ў Вялікую Каўказскую вайну. Зараз яна зацята схапілася ў крывавай бойцы са свабодалюбівымі народамі Дагестана. На некалькі горных пасяленняў, жыхары якіх не схацелі жыць пад расійскім ботам у вечнай няволі, маскоўскія ваякі абрынулі тоны авіябомбаў, снарадаў, мінаў. Сцякаючы крывёй паўстанцы не здаюцца і адчайна адбіваюцца ад акупантаў сваёй Бацькаўшчыны. У Маскву ляцяць новыя і новыя цынкавыя труны. Расійскія маці галосяць над сваімі сынамі...

Становішча вайны — звыклае становішча для Расіі. Яна не можа не ваяваць. Толькі сілай Масква здольная трымаць пад кантролем свае правінцыі. Маскоўскія прапагандысты называюць паўстанцаў «бандытамі», а кіраўнікоў паўстанцаў — «палявымі камандзірамі». Можна таксама назваць іх «чорнымі», «чуркамі», «духамі» і г.д. Але ж праўда адна: яны змагаюцца на сваёй зямлі і за сваю свабоду, а расійскія войскі на Каўказе былі і ёсць чужыя. Пра гэта, дарэчы, пісалі яшчэ Талстой і Лермантаў. Кожны з нас, хто вывучаў гісторыю ў школе, ведае праўду пра выступленні паўстанцаў на чале з такімі «палявымі камандзірамі», як Сцяпан Разін, Пётр Балотнікаў, Емяльян Пугачоў, Шаміль, Кастусь Каліноўскі ды іншымі. Пройдзе час і новыя «палявыя камандзіры» стануць героямі сваёй свабоднай Бацькаўшчыны. Пакуль існуе Расійская імперыя, пакуль Масква лічыць усе іншыя суседнія народы сваімі анучамі для выцірання ног, датуль будзе кіпець на адной шостай частцы зямнога шара перманентная вайна за свабоду.

Толькі вывад войскаў з тэрыторыі абвешчанага незалежным Дагестана, толькі спакойныя і разважлівыя перагаворы з паўстанцамі, з усімі прадстаўнікамі каўказскіх народаў, толькі пераўтварэнне Расійскай Федэрацыі ў Канфедэрацыю свабодных народаў, звязаных агульнымі эканамічнымі інтарэсамі і вольнымі выбіраць свой лёс, толькі такія захады прынясуць Маскве мір на многія дзесяцігоддзі.

Але хто тады будзе лічыцца з Масквой? Хто будзе ёй кланяцца, плаціць грошы? Што будуць рабіць тысячы яе чыноўнікаў, сотні генералаў? Што застанецца ім? У каго яны будуць красці і прасіць, калі іх Імперыі не стане? Яны ж больш нічога не ўмеюць.

Вось таму і льецца кроў расійскіх хлопцаў, гінуць мірныя жыхары і свабодалюбівыя паўстанцы Каўказа.

Масква слязам не верыць. Верыць кулям.

## «Настаўнік» і вучань

*Заканчэнне. Пачатак на стар.1*

Цікава, што нават большасць прадстаўнікоў, быццам бы, «абкрадзеных» Лявонавым гаспадарак, выказаліся за тое, каб выпусціць былога міністра на час суда з-за кратаў і дарасследаваць справу.

З асаблівым імпэтам чакалі такога рашэння і замежныя дыпламаты, якіх шмат прыйшло на працэс. Яны не хавалі, што лічаць суд над Лявонавым знакам, які пакажа, ці сапраўды беларускія ўлады збіраюцца дамаўляцца з апазіцыяй. Аднак цуда не адбылося. Рашэнне, якое абвясціў суддзя Чартовіч, засведчыла, што беларускія ўлады «не здаюцца». Дыпламаты пакінулі судовую залу расчараванымі. «Згубленая такая выдатная магчымасць, зараз усё трэба пачынаць спачатку!» — разводзіў рукамі прадстаўнік замежнай місіі, якая курыруе будучыя перамовы.

Па твару ж Васіля Лявонава было бачна, што іншага ён і не чакаў. Экс-міністр выглядаў хоць і стомленым, але рашучым, мабілізаваным на жорсткую барацьбу. Ужо ў першай сваёй прамове ён заявіў, што не верыць у аб'ектыўнасць суда. Лявонаў упэўнены, што яго будуць судзіць не суддзі, а непасрэдна прэзідэнт Лукашэнка. Варта нагадаць, што калісьці Аляксандр Лукашэнка называў падсуднага «сваім настаўнікам». Экс-міністр гатовы даваць на працэсе паказанні толькі дзеля таго, каб пры новай уладзе па матэрыялах суда было магчыма аднавіць справядлівасць. ■

**ЦЫТАТА НУМАРА**

> **Теперь уже ясно, что от того, состоится ли это объединение, зависит судьба не столько Беларуси, сколько России. Останется ли она в руках ее врагов, ведущих дело к окончательному уничтожению страны, или у нее появится наконец реальный шанс вновь стать великой, уважающей себя державой?**
>
> *Евгений РОСТИКОВ*
> *Газета «Рэспубліка», 17 августа 1999г.*

**ПАРТЫІ**

## Маладым палітыкам адмовілі ў рэгістрацыі

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

**Адным з 54 грамадскіх аб'яднанняў, якія сёлета не прайшлі перарэгістрацыю, стала Беларуская асацыяцыя маладых палітыкаў (БАМП).**

Як паведаміў прэзідэнт БАМП Анатоль Лябедзька, асацыяцыя была створаная ў 1992 годзе. Ля яе крыніцаў стаялі такія палітыкі, як Юрась Беленькі, Аляксандр Дабравольскі, Віктар Кучынскі, Віктар Шэйман, Павел Данейка. Галоўнай мэтай арганізацыі з'яўляецца выхаванне новай палітычнай эліты.

Міністэрства юстыцыі знайшло ў статуце БАМП некалькі недахопаў. Па словах А.Лябедзькі, усе прэтэнзіі, выстаўленыя міністэрствам, маюць рэдакцыйны, а не прынцыповы характар, — і таму гэтыя праблемы маглі быць лёгка вырашаныя. Аднак БАМПу ў перарэгістрацыі ўсё ж адмовілі. У той жа час рабіць праблему з таго, што іх не перарэгістравалі, асацыяцыя не збіраецца. «Мы будзем існаваць нават падпольна», — кажа А.Лябедзька. Апроч таго, плануецца болей актыўны ўдзел моладзі ў пікетах і нават пікетаванне дамоў, дзе жывуць члены камісіі па перарэгістрацыі, – у тым ліку і дома старшыні камісіі, віцэ-прэм'ера Уладзіміра Замяталіна. ■

**СВЕТ**

## Сабачы дзень

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

Як ні дзіўна, але насуперак усім народным прадстаўленням есці сабаку ў Паўднёвай Карэі забаронена.

Тым не менш, у годзе ёсць тры дні, калі для гэтага правіла робіцца выключэнне. І ўчора быў менавіта такі дзень. 17 жніўня па карэйскім месяцавым календары – гэта свята «Мальбок». Учора тысячы карэйцаў, у асноўным – мужчыны сталага ўзросту, елі сабачае мяса. На народных пафер'ях, гэтая ежа дазваляе даўжэй захоўваць мужчынскую патэнцыю.

Забарона на спажыванне сабачага мяса была накладзеная яшчэ ў 1988 годзе – напярэдадні летняй Алімпіяды ўлады Паўднёвай Карэі паклапаціліся, каб у краіны не ўзнікла адмоўнага іміджу. Тым не менш, для многіх у гэтай азіяцкай краіне традыцыі пераважваюць літару закона. У краіне налічваецца больш за шэсць тысяч рэстаранчыкаў, дзе вам прапануюць пашынтанг – суп з сабачым мясам. Штогод гэтыя рэстараны спажываюць каля 8,5 тысяч тон сабачыны. Яшчэ 93,6 тысяч тон ідзе на выраб медычнага прэпарата каэсою.



● Удзельнікі дэманстрацыі ў абарону сабакоў

Карэйскае таварыства абароны жывёлаў сцвярджае, што сабачына не адносіцца да традыцыйнай карэйскай кухні, яна ўвайшла ў рацыён у той час, калі ў карэйцаў не было магчымасці есці іншае мяса. ■

## На «Дажынкі» і «Дразды» ўлада выдзеліла грошы

**БелаПАН**

Савет міністраў Беларусі даручыў міністэрству фінансаў накіраваць «у межах агульных аб'ёмаў сродкаў, прадугледжаных у рэспубліканскім бюджэце на фінансаванне Дзяржаўнай інвестыцыйнай праграмы на 1999 год», 1 трыльён рублёў на будаўніцтва шэрагу аб'ектаў.

З іх 200 мільярдаў рублёў будуць накіраваныя на рэканструкцыю існуючых і будаванне новых будынкаў у элітным мінскім комплексе «Дразды», 300 мільярдаў — на будаўніцтва Палаца спорту ў Віцебску і на аб'екты ў Шклове ў сувязі з падрыхтоўкай да «Дажынак-99». ■

## Рабочыя супраць магілёўскай вертыкалі

**Алесь СЕРДЗЮКОЎ**

Свабодны прафсаюз прадстаўнікоў завода «Зеніт» упершыню звярнуўся ў суд Цэнтральнага раёна Магілёва з судовым іскам супраць «мэра» горада сп.Краснова. Іск з'явіўся пасля таго, як Магілёўскі гарвыканкам адмовіў арганізацыі ў правядзенні двух мітынгаў і дэманстрацыяў. Рабочым дазволілі правядзенне мітынгу, але ў другім месцы, каля дома культуры іншага прадпрыемства. ■

## В Ялте пройдет встреча лидеров стран Балтии и Черного моря

**Отдел информации**

Как сообщил МИД Украины, 10—11 сентября в Ялте пройдет саммит лидеров стран Балтии и черноморского региона. Главы более 20 государств соберутся, чтобы обсудить проблемы политического и экономического сотрудничества в регионах, а также вопросы, связанные с расширением NATO и ЕС. ■

## Новы закон аб псіхіятрычнай дапамозе

**Наталля КУЛАГІНА**

17 жніўня ўступіў у сілу Закон Рэспублікі Беларусь «Аб псіхіятрычнай дапамозе і гарантыях правоў грамадзянаў пры яе аказанні». Закон, у прыватнасці, устанаўлівае, што «дыягназ псіхічнага расстройства ставіцца ў адпаведнасці з агульнапрызнанымі міжнароднымі прынцыпамі і стандартамі і не можа грунтавацца толькі на нязгодзе грамадзяніна з прынятымі ў грамадстве маральнымі, культурнымі, палітычнымі або рэлігійнымі каштоўнасцямі або па іншых прычынах, непасрэдна не звязаных са станам яго псіхічнага здароўя». Згодна з законам, псіхіятрычная дапамога аказваецца грамадзяніну пры яго добраахвотным звароце або з яго згоды, за выключэннем наступных выпадкаў: калі хворы ўяўляе непасрэдную небяспеку для навакольных; пры яго поўнай фізічнай бездапаможнасці; пры істотным пагаршэнні стану яго здароўя. У гэтых выпадках рашэнне аб прымусовай шпіталізацыі – да агляду хворага медкамісіяй — прымае ўрач-псіхіятр.

Пры гэтым для дыягностыкі і лячэння грамадзянаў павінны прымяняцца толькі дазволеныя заканадаўствам медыцынскія сродкі і метады. ■



**ГРАМАДСТВА**

## Капіце грошы

**Дзмітрый УЛАСАЎ**
**БелаПАН**

З 15 жніўня ў Беларусі на 30 працэнтаў выраслі тарыфы на асобныя віды камунальных паслугаў насельніцтву — гарачую ваду і ацяпленне. Трэба адзначыць, што, згодна з новым Жыллёвым кодэксам Беларусі, пры аплаце за ацяпленне ў разлік будзе браццa не жылая, а агульная плошча кватэры.

Памер кватэрнай платы з 1 ліпеня таксама вызначаецца зыходзячы з агульнай плошчы жылля (каб пазбегнуць яе рэзкага павелічэння, дзеючая стаўка паменшана ў 1,6 раза). Прычым па тарыфе насельніцтва будзе аплачваць плошчу з разліку 20 квадратных метраў на аднаго чалавека і дадаткова 10 метраў на сям'ю, а астатняе — па нарматыўным сабекошце, які будуць вызначаць аблвыканкамы і Мінскі гарвыканкам. Акрамя таго, устаноўлены штомесячныя адлічэнні на капітальны рамонт у памеры 50 працэнтаў кватэрнай платы.

У асобны від плацяжоў выведзеная паслуга за карыстанне ліфтам. Ад уплаты вызваляюцца грамадзяне, якія жывуць ніжэй за трэці паверх дамоў, дзе маецца ліфт. Згодна з новым Жыллёвым кодэксам, кватэрная плата і камунальныя плацяжы павінны ўносіцца не пазней за 15 чысло наступнага месяца (раней — не пазней за 25-е). ■

РАЗМОВА

# Лявон Баршчэўскі: «Перамовы Лукашэнку непатрэбныя»

**Рыгор БУЯН**

**Сітуацыя, што склалася вакол запланаваных перамоваў апазіцыі з існуючым рэжымам, выклікае неадназначную рэакцыю абодвух бакоў. Калі апазіцыя накіравала ўсе сілы на перамоўны працэс, то ўлады, мяркуючы па публічных выказваннях кіраўнікоў дзяржавы, успрымаюць саму ідэю перамоваў досыць прахладна. В.а.старшыні Беларускага Народнага Фронту Лявон БАРШЧЭЎСКІ выказаў сваё меркаванне адносна рыхтуемага працэсу.**

— Я думаю, што ўсе партыі, якія яшчэ сумняваюцца ў неабходнасці агульнай платформы на перамовы і ў перадачы мандата на перамовы Вярхоўнаму Савету, павінны ў бліжэйшыя дні гэта пераадолець і зразумець адну ісціну: перамовы Лукашэнку непатрэбныя, бо ні на якую лібералізацыю выбарчага заканадаўства, змены Канстытуцыі ўрадавы бок ісці не хоча. А сарваць перамовы вельмі проста: варта заявіць, што ўлада не ведае, з кім з апазіцыі размаўляць. Каб гэтага не здарылася, партыі вызначылі, што, па-першае, апазіцыйнымі лічацца тыя партыі, якія не прызналі зменаў у канстытуцыі 96-га года і па-ранейшаму прызнаюць Вярхоўны Савет як адзіны прадстаўнічы і заканадаўчы орган дзяржавы. Таму б я заклікаў тыя палітычныя партыі, якія стаяць на пазіцыях канстытуцыйнай законнасці, прадэманстраваць у гэтай сітуацыі адзінства. Бо вызначана, што перамовы вядуцца па схеме «1 + 1» — апазіцыя і ўлада. Трэцім удзельнікам перамоваў у якасці пасрэдніка выступае сама місія АБСЕ. Другога механізма не вызначана. І як толькі мы сарвем схему «1 + 1», гэта дасць повад Лукашэнку абвінаваціць, што менавіта апазіцыя не змагла паміж сабой дамовіцца і тым самым сарвала перамовы.

Той, хто чытаў асноўныя палажэнні платформы, наўрад ці знойдзе, чаму запярэчыць у гэтым дакуменце. Можна спрачацца па нюансах, што, вядома, нармальна: платформа яшчэ будзе дапрацоўвацца. Але сутнасць у тым, што мы павінны дабіцца свабодных дэмакратычных выбараў у рэальны, маючы ўладу, орган улады. І гэтую сутнасць нельга зараз затушоўваць другараднымі, трэццяраднымі прэтэнзіямі.

***— Лявон Пятровіч, складваецца ўражанне, што апазіцыя, не паспеўшы дамовіцца, знаходзіцца на мяжы расколу. Старшыня Народнай Грамады адмовіўся перадаць мандат на перамовы Вярхоўнаму Савету. Услед за ім з дэмаршам выступіў лідэр ЛДП Сяргей Гайдукевіч...***

— Спадару Гайдукевічу трэба яшчэ даказваць сваю апазіцыйнасць — пакуль што, акрамя голых словаў і заяваў, ніякіх рэальных дзеянняў гэтая партыя не прадпрымала! Таму, думаю, яму рана рабіць дэмаршы.

Што да пазіцыі Міколы Статкевіча, то, калі адбывалася ўзгадненне пазіцыяў, ён знаходзіўся за кратамі і не ведаў некаторых нюансаў. Вярхоўны Савет не бярэ на сябе абавязкаў зацвярджаць персанальны склад дэлегацыяў ці весці перамовы ад імя партыяў. Гаворка ідзе пра тое, што Вярхоўны Савет вызначае першапачатковыя і далейшыя змены ў складзе дэлегацыяў — па прапанове партыяў. Іменна партыі іграюць асноўную ролю. Дамоўлена, што ўсе рашэнні павінен прымаць Вярхоўны Савет пры сённяшнім яго кворуме, што вельмі істотна. Калі гэтыя нюансы зразумеюць прадстаўнікі сапраўды апазіцыйных партыяў, то ўсе астатнія праблемы знімуцца самі сабой.

***— У прэсе прайшла інфармацыя пра персанальны склад дэлегацыі, якую рэжым збіраецца накіраваць на перамовы. Яе ўзначальвае памочнік прэзідэнта Міхаіл Сазонаў. Што Вы думаеце на гэты конт?***

Фота Ул.ШЛАПАКА

— Мушу сказаць, што няясны статус гэтай дэлегацыі. Наколькі я знаёмы з тэкстам указа, дэлегацыя створаная «для арганізацыі дыялогу ў грамадстве». Нам патрэбная дэлегацыя па канкрэтным пытанні: па вызначэнні статусу будучага парламента як паўнаўладнага органа і правядзенні свабодных дэмакратычных выбараў у гэты парламент. Калі ж афіцыйную дэлегацыю ўзначальвае памочнік прэзідэнта, а міністр з'яўляецца радавым сябрам — то тут таксама шмат пытанняў. Я думаю, што апазіцыя адкажа адэкватным складам дэлегацыі, калі мы не будзем бачыць сур'ёзнага прадстаўнічага складу дэлегацыі з таго боку.

***— «Адэкватны склад дэлегацыі» — што гэта азначае?***

— Я маю на ўвазе, што і апазіцыя будзе прадстаўленая на ўзроўні старшыні якой-небудзь камісіі Вярхоўнага Савета і наменнікаў кіраўнікоў партыяў — не вышэй.

***— Апошнія заявы Аляксандра Лукашэнкі сведчаць, што ўлада не прымае саму ідэю перамоваў. Што Вы можаце сказаць на гэта?***

— Я думаю, што спадар Лукашэнка ўвогуле не прымае думку, што хоць на пазногаць хтосьці можа абмежаваць неабмежаваную прэзідэнцкую ўладу. Пакінем на ягоным сумленні гэтыя выказванні. Я толькі хачу нагадаць спадару Лукашэнку, што, у адрозненне ад яго (ён выбіраўся ў 94-м годзе), дэпутаты Вярхоўнага Савета выбіраліся ў 95—96-х гадах. Зыходзячы з гэтага пункту гледжання, не яму крытыкаваць гэты Вярхоўны Савет.

***— Лявон Пятровіч, падзяліцеся Вашымі прагнозамі: ці адбудуцца перамовы?***

— Я мала веру ў тое, што перамовы адбудуцца. Але самае галоўнае ў тым, што апазіцыя павінна паказаць сваю кансалідаванасць, яснасць сваіх мэтаў і адсутнасць дробязных рознагалоссяў. І тады ўвесь свет пабачыць, хто зрывае перамовы. ■

ЭКАНОМІКА

# Зачем птицам деньги?

***— Солдаты, птицам деньги нужны? — Никак нет, господин полковник! — Так вот, орлы, ваше жалованье я пропил!*** *(Анекдот)*

Я — предприниматель. Пять лет работал, опираясь исключительно на заказы внутри республики, но сегодня у моих заказчиков денег больше нет. Ну что ж, решил я, попробуем найти тех, у кого они есть, и поработаем на экспорт. Заказчиков я нашел. Но оказалось, что для наших условий это не самое главное. Когда выяснилось, что я могу сделать с полученной от экспорта валютой, могло бы показаться, что сотрудник банка просто шутит, если бы не знать, в какой стране живем. 30% полученной валюты попадает не на мой счет, а на транзитный, с которого банк продает ее на бирже по курсу Национального банка (то есть вдвое ниже реального), а средства перечисляет мне на рублевый счет. Таким образом, любая валютная выручка автоматически облагается 15% налогом с оборота. При таком условии, рентабельной может быть разве что торговля оружием и наркотиками, но не производство или услуги.

Но и это еще не вся песня. Всю оставшуюся в «моем распоряжении», а точнее, на моем счету валюту я могу продать через свой банк кому угодно. Но только по все тому же вдвое заниженному курсу Нацбанка! Слыхал я в жизни много абсурда, но тут показалось, что у меня что-то не в порядке со слухом. «Нет, все именно так, — подтвердил сотрудник банка и загадочно добавил: — Вы не волнуйтесь, мы поможем Вам найти хорошего покупателя».

Я бы так и не понял, чем хорош покупатель, который заберет у меня половину от того, что оставило мне государство, если бы не мой приятель, который давно занимается внешнеторговой деятельностью. «Есть еще в этой стране экспорт, хотя и падает, — сказал мой приятель. — Просто большая часть его оформляется в виде бартера, который продается в Беларуси уже за рубли» (с 1 июля президент ввёл рентный сбор на бартерные операции в размере 15% с оборота — его размер вполне совпадает с недобором от обязательной продажи валюты). «Ну хорошо, а как же те, кто все-таки получает валюту? — не сдавался я. — Неужели отдают всю выручку за полцены «доброму» дяде?» «Да нет, конечно, — ответил он. — Просто оставшуюся половину покупатель отдает продавцу «черным налом».

На этом работает немалый слой посредников, сводящих покупателя с продавцом, обеспечивающих передачу денег и имеющих, конечно, хорошие комиссионные. Но суммы меньше 1.000 долларов посредников не интересуют, а процент комиссионных при малых суммах увеличивается. Ну и риск, конечно, постоянный».

Так что выбор небогатый: для крупного бизнеса — половину оборота в тень, а малому ловить тут вообще нечего. Решить все эти проблемы можно одним способом — привести курс Нацбанка в соответствие с реальностью. Но разве для этого со времен снятия Богданкевича эти курсы непрерывно расходились все больше и больше, а сами курсы (безналичный, наличный, Нацбанка, обменный, ...) плодились, как тараканы? И что особенно «приятно», под аккомпанемент заклинаний нынешнего главного банкира о скором создании условий для установления единого курса.

В общем, я понял так: не нужна этой стране валюта, которую я мог бы здесь зарабатывать. Экономика уже в свободном полете. А птицам деньги ни к чему.

**М. Б.**

МЕРКАВАННЕ КРАІНЫ

**Мы продолжаем публикацию результатов социологических исследований, которые проводит лаборатория «НОВАК» Андрея Вардамацкого. Опрос был проведен 8—13 июля. Репрезентативная выборка — 1.095 человек.**

# Как мы относимся к массовым выступлениям против падения уровня жизни?

**Как вы думаете, насколько возможны сейчас в вашем городе (районе) массовые выступления против роста цен и падения уровня жизни?**

| | Беларусь | Минск |
|---|---|---|
| Вполне возможны | 21,0% | 26,7% |
| Маловероятны | 68,1% | 65,0% |
| Затрудняюсь ответить | 8,5% | 6,0% |
| Нет ответа | 2,4% | 2,3% |

**Если состоятся митинги, демонстрации против роста цен и падения уровня жизни, вы лично примете в них участие?**

| | Беларусь | Минск |
|---|---|---|
| Скорее всего да | 24,5% | 15,0% |
| Скорее всего нет | 62,4% | 77,5% |
| Затрудняюсь ответить | 10,5% | 6,2% |
| Нет ответа | 2,6% | 1,2% |

Сравнивая результаты данного опроса с аналогичным исследованием прошлого года, становится очевидной тенденция к росту протестных настроений. В июле прошлого года допускали возможность массовых выступлений 15,7% опрошенных. В текущем году эта цифра увеличилась до 21% (прирост — 5,3%).

Если в июле прошлого года готовы были принять участие в массовых акциях против роста цен и падения уровня жизни 20,2% респондентов, то в июле нынешнего года эта цифра возросла до 24,5% (прирост — 4,2%). ■

СКАНДАЛ

# «Грахі» фінансіста

## У Мінску распачнецца першы судовы працэс над банкірам

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

**20 жніўня Фрунзенскі райсуд Мінска збіраецца пачаць працэс над экс-старшынёй праўлення Ашчаднага банка Беларусі Уладзімірам Хілько. Яму інкрымінуюцца два нявернутыя крэдыты на агульную суму 2 мільёны долараў, якія, па версіі следства, У.Хілько выдаў, перавышаючы службовыя паўнамоцтвы.**

Былы банкір быў арыштаваны 6 кастрычніка мінулага года і ўжо на той момант з'яўляўся інвалідам другой групы з шэрагам цяжкіх захворванняў, сярод якіх цукровы дыябет, пра што следства было папярэджанае. Праз два тыдні знаходжання ў следчым ізалятары Уладзімір Хілько перанёс паўторны інфаркт. У следчым ізалятары КДБ спужаліся лятальнага зыходу і перавялі экс-банкіра на Валадарку, адкуль ён трапіў у рэспубліканскую бальніцу камітэта па выкананні пакаранняў МУС. Менавіта тут У.Хілько знаходзіцца і цяпер. Медыцынская камісія тройчы яго абследавала і сведчыла пра цяжкі стан здароўя. Аднак нават у гэтым годзе, калі Уладзіміру Хілько рабілі аперацыю на сэрцы ў 4-ай клінічнай бальніцы, яму не памянялі меру стрымання. Гэтая аперацыя не вырашыла праблемаў са здароўем. Па словах жонкі, Зінаіды Хілько, стан здароўя мужа дрэнны, патрэбная яшчэ адна аперацыя. Трымаецца У.Хілько практычна на леках. Урачы рэкамендавалі яму стацыянарнае лячэнне, выключаючы ўсялякія фізічныя і псіхалагічныя перагрузкі. Але ці можна іх пазбегнуць у палаце турэмнай бальніцы, дзе знаходзіцца 16 чалавек, сярод якіх асуджаныя, а тэмпература ў памяшканні да 30 градусаў? На калідоры бальніцы паміраюць хворыя. Нават не можа быць гаворкі пра рэабілітацыю пасля аперацыі ў такіх умовах. У сваёй заяве, перададзенай Кансультатыўна-наглядальнай групе АБСЕ і Беларускаму Хельсінкскаму камітэту, Уладзімір Хілько піша: «Практычна я павольна паміраю ў турэмнай бальніцы, а я не прызнаны злачынцам. Мой зварот — гэта крык адчаю, бо мяне павольна і пакутліва пазбаўляюць жыцця». У. Хілько просіць звярнуць увагу грамадскасці на парушэнне правоў чалавека, на «дапускаемыя катаванні і пакуты, якія прымяняюцца да асобаў, прыцягнутых да крымінальнай адказнасці».

На мінулым тыдні паўторны медыцынскі кансіліум вырашыў, што У.Хілько будзе ўдзельнічаць у судовым працэсе ў прысутнасці турэмнага ўрача, прычым ні сам абвінавачваемы, ні ягоны адвакат не хацелі, каб хвароба стала прычынай пераносу працэсу на больш позні тэрмін. Адвакат Святлана Маргулец аднак апасаецца за здароўе свайго падабароннага.

Па словах старшыні наглядальнага камітэта Беларускай праваабарончай канвенцыі Аляксандра Патупы, будучы працэс выклікае вялікую цікавасць. Перад судом акажацца першы банкір, бо лёс Т.Вінніковай і М.Чыгіра пакуль нявызначаны. Па ягоных словах, улічваючы становішча У.Хілько, можна гаварыць пра тэрарыстычнае ўздзеянне ўладаў на абвінавачваемага. На суд, які павінен пачацца ў пятніцу, прыедзе старшыня маскоўскага банка «Авангард» Міхаіл Франскевіч, які збіраецца выступіць у ролі грамадскага абаронцы. Менавіта мінскае аддзяленне гэтага банка У.Хілько ўзначальваў перад сваім арыштам. ■

СВЕДЧАННЕ

# Быдлападабенства

Кастусь ТАРАСАЎ

**Падземны пераход каля станцыі метро «Няміга» з дня трагедыі стаў святым месцам для кожнага, хто мае сэрца і здольны смуткаваць. Мноства людзей прыходзіць на прыступкі перахода, каб аддаць даніну памяці маладым людзям, якіх сустрэла тут смерць. Іх родныя і сябры пакрылі мармуровыя сцены падзямелля эпітафіямі, здымкамі, малюнкамі, якія, адпаведна старажытнаму вераванню, маюць пабачыць душы 53 пакутніц і пакутнікаў і ўпэўніцца, што яны не забытыя.**

Аднак святыя мясціны прыцягваюць і бессаромную брыдоту. Сведчаннем гэтаму служаць лістоўкі і ксеракопіі плакатаў, якія наклейваюць на сцены прапагандысты праваслаўя. Побач з вершамі, малітвамі, жалобнымі словамі, адрасаванымі ахвярам Нямігі, чыясьці брудная рука наклейвала тут 10 аркушаў з легендамі пра архангелаў Гаўрыіла і Міхаіла. Вісяць друкаваныя лістоўкі з абвінавачваннем атэізму ў «скотоподобии», а талмудізму — у «демоноподобии» і адпаведна ўхваленнямі праваслаўя як «истинной» веры. Найбольш цынічна выглядае на «Сцяне плачу» плакат пад назвай «Господи спаси и умири Россию», якім нейкае свалачно заклеіла на мінулым тыдні эпітафію адной з пакутніц з імем «Оленька». Нехта гэтае паскудства сарваў, але яно зноў з'явілася на тым самым месцы. Плакат апавядае пра святое жыццё апошняга рускага цара і аздоблены яго вялікім фотаздымкам. Змест акцэнтуе ўвагу на грахах народа перад самадзяржаўем і заклікае пакаяцца, каб выратаваць Расію і рускую праваслаўную веру. Дзеля гэтага трэба памятаць пра «государя» Мікалая II «присно и во веки веков. Аминь! Аминь! Аминь!»

Справа, відавочна, не ў тым «добры» ці «крывавы» быў расійскі імператар. Нават выявы самых вядомых святых не да месца на няміжскай «Сцяне плачу». Абражае гнюснасць учынку, калі трагедыя выкарыстоўваецца дзеля канфесійнай прапаганды. Не хочацца верыць, што брудныя наклейкі ў пераходзе робіцца па цэнтралізаваным загадзе, аднак пастаяннае абнаўленне гэтай непаважнай прадукцыі не надае аўтарытэту царкве. Нават у тым выпадку, калі папклеечныя работы праводзяць групоўкі псіхічна хворых асобаў. Тым больш выклікае занепакоенасць магчымая пабудова каля месца трагедыі храма Спаса на крыві. Пры такіх настроях аматары імператарскай памяці могуць хутка забыцца на 53 ахвяры, а пачнуць узгадваць Мікалая II, і храм стане паўтарэннем таго Спаса, якім ушанаваны ў Пецярбургу Аляксандр II.

Магчыма, што наклейванне манархічна-праваслаўных вырабаў — правакацыя, якая мае на мэце забарону ўсіх прысвячэнняў на «Сцяне плачу». Бо не міліцыі ж ацэньваць, што да месца, а што нясе абразу. Гэта яшчэ адна падстава для памятнай шыльды, якая б апавядала пра трагедыю не агульнай фармулёўкай, якую можна аднесці да якога заўгодна драматычнага выпадку, а з імёнамі канкрэтных ахвяраў. Тады не вісеў бы побач «невинно убиенный Государь Император». Відаць, зрабіў бы добрую справу і экзарх рускай праваслаўнай царквы на Беларусі мітрапаліт Філарэт, калі б заклікаў актывістаў «покаяния» ўстрымацца ад паскудстваў на святым месцы, бо наклейка плакацікаў з фотаздымкам Мікалая II над здымкамі дзяўчат і юнакоў, якіх 30 траўня вынеслі з перахода мёртвымі, можа рабіцца людзьмі, падобнымі на быдла. ■




Фота Ул. ШЛАПАКА

«Сцяна плачу». Ліст да сяброўкі анёльскай поштай. Кімсьці сарваны




Такія звароты заклейваліся найперш

ФЭСТ

# Магия зрелищ

## С 7 по 11 сентября в Минске пройдет Международный фестиваль перформанса «Новинки-99»

Татьяна НОВИКОВА

Организаторы — белорусская Ассоциация «Современное искусство» при поддержке Фонда Сороса, Польского Института и Посольства Литвы в Беларуси. К участию приглашены известные мастера перформанса из Европы — Ричард Лэйзел (Великобритания), Теодор ди Рикко, Юрген Шнейдер (Германия), Януш Балдыга, Збигнев Варпеховский, Войцех Стефанек (Польша) и белорусские художники, работающие в этом жанре, — Виктор Петров, Юрий Борисевич, Леонид Вольский, Алексей Лунев, Александр Родин, Людмила Русова, Игорь Кашкуревич, Змитер Вишнев и другие.

Фестиваль начнется 7 сентября в минском Дворце искусств. Там же в последующие три дня пройдет основная программа. Всего будет показано около 40 перформансов, включая уличные представления. Такой фестиваль должен состояться в Беларуси впервые.

Организаторы не предлагают никакой темы и хотели бы представить белорусскому зрителю жанр перформанса вообще. Дело в том, что перформанс предполагает живой контакт со зрителем. Поэтому в Европе столь популярны ежегодные фестивали, где художники и публика могут обмениваться впечатлениями. Это направление в искусстве известно европейцам сравнительно давно. Если не углубляться в аналогии с уличным театром времен Шекспира, то первое действо, получившее название перформанса (от английского perform - исполнять), происходило в 20-е годы в Цюрихе. Его авторами были художники-дадаисты. С начала 60-х перформанс получил официальное признание и начал активно развиваться. Сегодня этот жанр слишком многообразен, он отличается авторским, часто импровизованным исполнением. Особенность перформанса состоит в том, что к нему не применимы запись и воспроизведение. Опыт показал, что даже высокопрофессиональная съемка не в состоянии запечатлеть и половины. При этом художники-перформеры используют всевозможные средства — от живой натуры до разнообразных материалов и технологий.

Минская публика, в отличие от жителей европейских городов, в последнее время редко наблюдает подобные акции. Здесь это пока салонный жанр. Наслышаны мы разве что о перформансе художника Алеся Пушкина, приуроченном к 20 июля, дню окончания легитимных полномочий Александра Лукашенко. Он, кстати, примет участие в «Новинках-99».

Не знаю, удастся ли Ассоциации дать общее представление о том, что такое перформанс, оно слишком широко. Для этого куратор проекта художник Виктор Петров пригласил известных перформеров из Великобритании, Германии, Испании, Ирландии, Дании, Польши и Литвы. Однако малый бюджет не позволяет принять всех, кто пожелал приехать. Если замыслы организаторов осуществятся и нечто подобное будет проходить в Минске ежегодно, то мы сможем наблюдать увлекательное зрелище. ■

МІЖНАРОДНЫЯ АДНОСІНЫ

# Беларусь и Европа: потерянные возможности

Александр СИЛИЧ,
Хартия'97, Брюссель, специально для НАВІНАЎ

**Европейский союз — это ни федерация, ни конфедерация, ни наднациональный орган, которыми, кстати, являются NATO, ОБСЕ, ООН. ЕС — это попытка разработать единые правила игры для всех государств–членов ЕС. Цель всего этого одна – повысить жизненный уровень граждан новой Европы. «Мозг» ЕС – Европейская Комиссия.**

***— Какова, на Ваш взгляд, роль Европейской Комиссии в ЕС?*** *– я обращаюсь к ответственному работнику Европейской Комиссии, сидя в его кабинете на Рю де ля Луа, 170 в Брюсселе. Рю де ля Луа – дословно с французского — Улица Закона. Символично, не правда ли?*

— Европейская Комиссия обладает эксклюзивным правом законодательной инициативы, контролирует исполнение законов и управляет финансами. Есть сферы, в которых законодательные инициативы могут быть выдвинуты другими органами союза. Скажем, во внешней политике или в вопросах безопасности инициатором может выступать Совет ЕС. Говоря о Беларуси, мне вспоминается случай, когда разгорелся скандал с резиденциями послов в Минске, и ваш президент начал отбирать эти резиденции у послов. В том случае инициатором запрета на выдачу виз чиновникам, представляющим правительство Лукашенко, как ответ на незаконные действия властей в Беларуси, выступил именно Совет ЕС.

***— Какие, на Ваш взгляд, перспективы ЕС? Последние выборы в Европарламент показали, скажем так, не очень сильную заинтересованность европейцев.***

— Многое, конечно, зависит от страны-члена союза: традиционно активными были Италия и Ирландия, традиционно неактивной — Великобритания. Британцы, вообще, всегда скептически относились к сотрудничеству с другими европейскими странами. И от этого, кстати, и пострадали весьма сильно в финансовом плане. Касательно перспектив союза, я нахожу их весьма хорошими. По-моему, сегодня уже ясно всем, что Европейский союз доказал свою эффективность, и прежде всего в максимизации эффективности национальных экономик.

***— Расскажите, пожалуйста, о работе Европейской Комиссии с Восточной Европой, в частности, с Беларусью. С какими структурами вы работаете?***

— Комиссия работает практически со всеми бывшими социалистическими странами и бывшими республиками СССР. У нас есть, например, постоянное представительство на Украине в Киеве. А у этого представительства, соответственно, есть подчиненный офис в Минске.

Сотрудничаем мы, в основном, с государственными структурами: МИД, министерство экономики и т.д. Но дело в том, что на сегодняшний день практически все проекты Еврокомиссии и ТАСИС, равно как и потоки финансовой и материальной помощи в Беларусь полностью остановлены после ноября 1996 года. То есть с того момента, когда у вас произошел конституционный референдум, результаты которого не признаны Европейскими структурами. В настоящее время мы занимаемся в Беларуси завершением тех проектов, которые начали до ноября 96-го года. До этой даты мы планировали оказать Беларуси финансовую помощь в размере 37 миллионов Евро за период с 1997 по 1999 год. Для примера, Украина, население которой в 5 раз превышает население Беларуси, получает в год 40 миллионов.

***— То есть, белорусы потеряли очень много в результате фактического государственного переворота?***

— Потеряли и продолжают терять. Хочу отметить тот факт, что Еврокомиссия планировала инвестировать проекты по ликвидации последствий аварии на Чернобыльской АЭС, организации и внедрении современных систем таможенного контроля на белорусско-польской границе, программы развития регионов, транспорта, новых энергетических систем, проекты, касающиеся проблем окружающей среды, и так далее.

***— Есть ли надежда у Беларуси рассчитывать на финансовую и другую помощь от Евросоюза в будущем?***

— Безусловно. Вам необходимо лишь вновь начать действовать по правилам цивилизованного мира. Условия для оказания помощи те же, что и при вступлении в Евросоюз: уважение прав человека, наличие гражданских свобод, развитие рыночной экономики.

***— Работает ли Еврокомиссия с общественными и оппозиционными структурами?***

— Нет, с оппозиционными структурами мы не работаем. Равно как и не финансируем политические партии. ■

СПРАВКА НАВІНАЎ

*Работает в Еврокомиссии 16.000 человек. Это самый большой по численности институт демократической Европы. 99% сотрудников составляют секретари, координаторы, переводчики, другой обслуживающий персонал 23-х директоратов. Элита Еврокомиссии — 20 представителей от стран-членов ЕС – по два от Франции, Германии, Великобритании, Италии и Испании и по одному от остальных членов союза.*

*На Еврокомиссию возложены 3 основные задачи. Во-первых, законодательная инициатива. Во-вторых, контроль за выполнением международных договоров и европейского законодательства. Комиссия может инициировать судебное преследование при помощи Европейского суда, накладывать штрафы на представителей правительства, фирм и отдельных граждан тех государств союза, которые уклоняются от выполнения законов. В-третьих, управление финансами и организация переговоров. Комиссия контролирует соблюдение бюджета ЕС ( в 1997 году составлял 89 миллиардов Евро ), разрабатывает превентивные меры для предотвращения разрушения европейского рынка путем предложения на нем по демпинговым ценам товаров из третьих стран.*

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі. Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 586 Нумар падпісаны ў друк 17/08/99 (15:00) Наклад — 16.670